ГАЗЕТА З БЕЛАРУСІ

# ГОЛАС РАДЗІМЫ

ВЫДАЕЦЦА З 1955 ГОДА ● NO.31 (3151) ● ЧАЦВЕР, 20 ЖНІЎНЯ, 2009

ШТОТЫДНЁВІК "ГОЛАС РАДЗІМЫ" МОЖНА ЧЫТАЦЬ У ІНТЭРНЭЦЕ: WWW.GOLAS.BY



**Народны касцюм для Каралевы**
Нашы суайчыннікі з Аргенцíны не парываюць сувязяў з Радзімай **Стар. 2**



**Знічкі Айчыны** **Стар. 3**



**Пяшчота бронзавых прыгажунь**
Сонечнасцю і цеплынёй напоўнены скульптуры і графічныя лісты Андрэя Асташова **Стар. 4**

# Для зямлі цаліннай

## На жніве ў Казахстане хутка будуць працаваць сотні беларускіх камбайнаў

**Валерый Сідорчык**

Сучасныя збожжаўборачныя камбайны вытворчага аб'яднання "Гомсельмаш" запатрабаваны не толькі ў хлебаробаў Беларусі, але і за яе межамі. Цяпер аб'яднанне завяршае гадавы план паставак машынакамплектаў для зборкі камбайнаў знакамітай маркі ў Казахстан. Як паведаміў дырэктар маркетынг-цэнтра "Гомсельмаша" Уладзімір Фралоў, дзейнічае дагавор паміж аб'яднаннем і адкрытым акцыянерным таварыствам "Аграмашхолдынг Казахстан", у адпаведнасці з якім сёлета на Кастанайскім дызельным заводзе будзе сабрана 200 машын. Гэта, дарэчы, у тры з паловай разы больш, чым летась. Прычым было загадзя агаворана: уся тэхніка павінна прыняць удзел у сёлетнім жніве, і заказ на яе фарміраваўся, зыходзячы з заявак мясцовых сельгасвытворцаў. А масавая ўборка збожжавых у многіх раёнах Казахстана пачынаецца ў канцы жніўня і на пачатку верасня.



Камбайны "Гомсельмаша" заваёўваюць прызнанне на хлебаробскіх нівах

На Кастанайскім дызельным заводзе камбайны збіраюць пад маркай КЗС-740 Esil, яны маюць статус тэхнікі, выраблёнай у Казахстане. Такая форма прамысловай інтэграцыі дае магчымасць гомсельмашаўцам мець пэўныя прэферэнцыі ў выглядзе зніжэння мытных плацяжоў. А партнёр атрымлівае ліцэнзійную тэхніку, у якой можна выкарыстоўваць камплектуючыя мясцовай вытворчасці.

Далей многае залежыць ад таго, як зарэкамендуе сябе тэхніка на былых цалінных землях. Калі камбайны надзейна адпрацуюць на ўборцы, атрымаюць станоўчыя водгукі казахскіх аграрыяў, то на наступны год аб'ём сумеснай вытворчасці можа быць павялічаны ўдвая. Прынамсі, такія намеры ёсць у абодвух бакоў.

**ВЕСТКІ**

# Скрыжаванне шляхоў і эпох

**Надзея Кукса**

**У Брэсце выйшла з друку кніга, якая прысвечана 990-годдзю горада**

У новым выданні сем частак, якія адпавядаюць асноўным этапам развіцця горада: "Град Бярэсце", "Брэст-Літоўск", " Брэст над Бугам", "Напрамак галоўнага ўдару", "Заходнія вароты Савецкага Саюза", "БССР Беларусь" і "Брэст сучасны".

Пры падрыхтоўцы выдання выкарыстаны працы розных фатографаў, матэрыялы і дакументы з фондаў Брэсцкага абласнога краязнаўчага музея, Музея гісторыі горада, мемарыяльнага комплекса "Брэсцкая крэпасць-герой", а таксама матэрыялы, якія прадставіў Брэсцкі аблвыканкам і прыватныя калекцыянеры.

"Ідэя стварэння такой кнігі з'явілася ў мяне некалькі гадоў таму, і пастуова яна набыла форму, якая паказвае непарыўную хроніку падзей Брэста на працягу амаль дзесяці стагоддзяў, багатую на драматычныя зломы, — адзначыў на прэзентацыі аўтар канцэпцыі, тэкста і шэрагу фотаздымкаў брэсцкі журналіст, дырэктар выдавецтва "Паліграфіка" Аляксандр Сувораў. — Гэта кніга — своеасаблівае "кіно на паперы".

# Кватэры на экспарт

## Беларускія будаўнікі маюць намер узводзіць каля мільёна квадратных метраў жылля з уласных матэрыялаў за межамі краіны

**Лілія Крапівіна**

Такім шляхам будаўнікі разлічваюць нарошчваць экспарт будаўнічых паслуг і зарабляць валюту. "Сёння рабіць гэта няпроста, — прызнаў першы намеснік міністра архітэктуры і будаўніцтва Міхаіл Абрамчук. — Таму кіраўнікі будаўнічых арганізацый раз'ехаліся па краінах СНД, яны шукаюць, дзе можна аказаць будаўнічыя паслугі".

Дарэчы, беларусы сёння ўжо будуюць жыллё ў Венесуэле, адтуль пералічана 80 мільёнаў долараў на гэтыя мэты. Ужо ўзведзены фундаменты будучых дамоў. І няма сумненняў, што задача, якая пастаўлена перад беларускімі будаўнікамі, будзе выканана, адзначыў Міхаіл Абрамчук. Ён таксама паведаміў, што прапрацоўваецца магчымасць экспарту будаўнічых паслуг у Лівію і Ірак. У гэтыя краіны, аднак, наўрад ці атрымаецца завезці свае будматэрыялы, там будзе выкарыстоўвацца толькі беларуская тэхніка і працоўная сіла.

На сённяшні дзень будаўнічая галіна Беларусі мае станоўчае сальда знешняга гандлёвага балансу, хаця і невялікае — дванаццаць з паловай мільёнаў долараў. Сёлета плануецца паставіць на экспарт каля 500 тысяч тон цэменту, летась жа экспарт яго склаў 360 тысяч тон. Нягледзячы на тое, што сёння ён патрэбен і на ўнутраным рынку, Мінбудархітэктуры імкнецца пашырыць пазіцыі за межамі краіны.



Пабудуем – будзем жыць!

# Такі зручны транспарт

**Алена Салаcенка**

**Беларуская чыгунка плануе запусціць у Мінску сучасную гарадскую электрычку**

"Мы цяпер вядзем разлікі па праекце стварэння мінскай гарадской электрычкі, разглядаецца ўчастак шляху ад станцыі Ждановічы да станцыі Мінск-Пасажырскі", — паведаміў начальнік Беларускай чыгункі Анатоль Сівак. Рэгулярнасць руху электрычкі складзе каля дзесяці хвілін. Па маршруце будуць хадзіць сучасныя цягнікі з некалькімі ўваходамі і выхадамі. "Разлікі паказваюць, што на арганізацыю праекта мінскай гарадской электрычкі і спадарожных праектаў, у прыватнасці, абходу чыгуначных шляхоў вакол сталіцы, неабходны інвестыцыі ў памеры 400-600 мільёнаў долараў.



Мы працуем над тым, каб гэтыя выдаткі зменшыць ", — зазначыў А. Сівак. Аднак пра канчатковую суму інвестыцый для праекта гаварыць яшчэ рана. "Мы разлічваем на грошы, якія горад выдаткоўвае на будаўніцтва метро, будзем выкарыстоўваць і ўласныя сродкі, а таксама прыцягваць прыватны бізнес", — патлумачыў начальнік Беларускай чыгункі.

Па словах Анатоля Сівака, адзін са складальнікаў гэтага праекта — пусціць цягнікі ў абход Мінска. Беларуская чыгунка сёння мае ўчасткі шляхоў, якія не эксплуатуюцца. Іх неабходна прывесці ў рабочы стан і пусціць частку грузавых цягнікоў у абход сталіцы, каб вызваліць шляхі для больш інтэнсіўных пасажырскіх перавозак.

ЯК СПРАВЫ, ДЫЯСПАРА?

# Народны касцюм для Каралевы

## Нашы суайчыннікі з Аргенціны не парываюць сувязяў з Радзімай

**Іван Ждановіч**

Прыемна ўявіць: на шматлюдным Нацыянальным Фэсце Эмігрантаў у аргенцінскай правінцыі Місьёнес прывольна гучаць беларускія мелодыі. А Каралева года, якую выберуць напярэдадні свята нашы суайчыннікі з ліку найпрыгажэйшых супляменніц горада Абера, будзе красавацца на фэсце ў нацыянальным строі. Менавіта для яе, дарэчы, і прызначаны (як узнагарода) адзін з касцюмаў, перададзеных у Аргенціну з Беларусі.

Гэты фестываль — вялікі, традыцыйны, штогадовы, сёлета яшчэ і юбілейны: трыццаты па ліку. Да чарговага фэсту, які летась на пачатку верасня гудзеў амаль дзесяць дзён, нашы землякі з-за акіяна цяпер рыхтуюцца, пэўна, з лацінаамерыканскім імпэтам. Прычым загадзя. Таму і звярнуліся праз Пасольства Беларусі ў Аргенціне па дапамогу на Радзіму. І своечасова атрымалі яе. "Ад імя Славянскага, Рускага і Беларускага культурнага таварыства горада Абера, правінцыі Місьёнес, дзякуем Вам сардэчна за аказаную нам дапамогу: мы атрымалі праз Пасольства Беларусі ў Аргенціне прыгожыя нацыянальныя касцюмы (3 жаночыя і 3 мужчынскія)", — пішуць па ўдзячным лісце на адрас Упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцяў беларусы з Аргенціны. Далей інфармуюць, што касцюмы "будуць выкарыстаны нашым танцавальным калектывам "Мяцеліца" і што адзін з іх стане ўбраннем для Каралевы. Яшчэ ў лісце — шчырая ўдзячнасць "за літаратуру і сувенірную прадукцыю, якія вельмі важныя для нас і для падтрымкі славянскай культуры ў Аргенціне".

Заўважым, ліст прыйшоў ад кіраўніцтва руска-беларускага клуба "Мяцеліца". У апараце Упаўнаважанага ўдакладнілі: за акіян перададзены салідны груз, у якім было 5 вышываных ручнікоў, 20 касцюмаў, 50 кніг, а таксама кампакт-дыскі, дзяржаўная сімволіка, нацыянальныя сувеніры з саломкі і керамікі. З беларускага ж пасольства ў Аргенціне паступіла інфармацыя, што ўсё гэта накіравана на адрас беларускіх культурных суполак, якія "забяспечваюць у Аргенціне падтрымку нацыянальнай культуры і самабытнасці беларускага народа". Між іншым, і пасольства атрымала ўдзячныя лісты за такую дапамогу з клубаў "Днепр", "Виссарион Белинский", "Максим Горький", "Восток" і "Аврора". Можа падацца, што ў назвах клубаў пераважае рускі складнік?


Аргенцінскія беларусы ў дні Фестывалю Эмігрантаў


На адкрыцці беларускай экспазіцыі ў горадзе Абера

Але вось і яскравы "беларускі след" з пасольскага ліста: "пратакольнай зале клуба "Виссарион Белинский" будзе нададзена імя беларускага песняра "Янка Купала", запланаваны ўрачыстыя мерапрыемствы, прысвечаныя гэтай падзеі і адкрыццю адпаведнай экспазіцыі".

Варта дадаць, што ў горадзе Абера моцная Федэрацыя эмігрантаў, там у згодзе жывуць выхадцы з больш чым 30 краін. З 1994 года беларускае Маладзечна і аргенцінскі Абера — гарады-пабрацімы. Летась пры садзеянні нашага пасольства ў рускім музеі горада была арганізавана пастаянная экспазіцыя, якая расказвае пра нацыянальную самабытнасць беларусаў.

## З краёў далёкіх і блізкіх

**Выстава "Кнігі беларускага замежжа" працуе ў зале беларускай літаратуры Нацыянальнай бібліятэкі**

Кнігавыдавецкая дзейнасць беларускай эміграцыі — цікавая з'ява нашай культуры. На выставе, арганізаванай у Мінску, прадстаўлена больш за 500 дакументаў, выдадзеных нашымі суайчыннікамі за мяжой за апошнія 20 гадоў. Тут можна пазнаёміцца таксама з публікацыямі, прысвечанымі значным прадстаўнікам беларускіх асяродкаў замежжа. Выстава будзе працаваць да канца верасня.

## Адаптацыя да клімату

**Спецыялісты з Беларусі запрошаны ў Карэю на першы віртуальны міжнародны сімпозіум "Патэнцыял інфармацыйна-камунікацыйных тэхналогій па выратаванні планеты"**

Вэб-трансляцыя сімпозіума будзе весціся з Сеула (Карэя) 23 верасня. Удзельнікі абмяркуюць асаблівасці адаптацыі розных краін свету да змяненняў клімату, меры, якія прымаюцца для змякчэння яго наступстваў, а таксама новыя інфармацыйна – камунікацыйныя тэхналогіі ў галіне экалогіі і аховы навакольнага асяроддзя.

СУСТРЭЧЫ

# Казарскі, Багдановіч, Севастопаль, Ялта…

## Чатыры словы яднаюцца справамі Валерыя Барташа

**Адам Мальдзіс**

Па-першае, хто такі Барташ? Старшыня праўлення Севастопальскага таварыства беларусаў імя Максіма Багдановіча, адвакат па прафесіі, а заадно і публіцыст, паэт душой.

Па-другое, хто такі Казарскі? Калі асоба Максіма Багдановіча вядомая ледзь не кожнаму беларусу, то Аляксандра Казарскага ўзгадаюць хіба гісторыкі ды аматары вандраваць па Крыму. А між тым ён — сапраўдны герой руска-турэцкай вайны 1828–1829 гадоў. І наш суайчыннік: нарадзіўся ў Дуброўне на Аршаншчыне ў 1798 годзе. Самы першы помнік у Севастопалі ўзведзены яшчэ ў 1834 годзе менавіта Казарскаму. А на Радзіме, у Дуброўне, яму ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

У кожны свой прыезд у Мінск Валерый Барташ абавязкова заходзіць у рэдакцыю газеты "Голас Радзімы", расказвае пра паездкі ў Ялту на магілу Максіма Багдановіча, патрона свайго таварыства, — на святы верша і песні. Заглянуў да нас і калі ўдзельнічаў у рабоце Пятага з'езда беларусаў свету.

**— Сёлета пабывалі ўжо ў Ялце?** — пытаюся ў госця.

— Як жа інакш! Там сустрэліся з беларусамі Феадосіі, Сімферопаля, іншых крымскіх гарадоў. А вось вам падарунак з Севастопаля: талерка з выявай помніка капітану Казарскаму. Як бачыце, формай помнік нагадвае даўнюю вежу, на версе якой — бронзавая трыера, старажытнагрэчаскі карабель, на такіх плавалі Геракл, Адысей. На помніку напісана: "Нашчадкам у прыклад". Гэта значыць, і нам з вамі ў прыклад...



Дэкаратыўная талерка ў гонар Аляксандра Казарскага

**— Цікава, а як вам, у Севастопалі, гэты прыклад бачыцца? У чым ён заключаецца?**

— Гэта ўсім нам урок мужнасці, а таксама надзеі нават у самай безнадзейнай сітуацыі. Прыклад стойкасці, якая творыць цуды. Гэта прызналі нават ворагі. Адзін турэцкі афіцэр, які ўдзельнічаў у чатырохгадзінным баі з брыгам "Меркурый" пад камандаваннем Казарскага, пісаў (цытую прыблізна), што калі летапісы розных часоў захоўваюць для нас доказы бясстрашнасці, то ўчынак Казарскага зацьміць усе іншыя. І турак меў рацыю: на брыгу "Меркурый" было ўсяго 18 гармат, супрацьстаялі ж яму лінкоры "Селіміе" (110 гармат) і "Рэал-бей" (74 гарматы) — і пацярпелі паражэнне.

**— Таму і прызнанне — царскае і ўсенароднае — было дастойным. Казарскі, сын упраўляючага дубровенскім маёнткам князя Любамірскага (цытую тут беларускага географа Валерыя Ярмоленку), "атрымаў ордэн Георгія 4-й ступені, званне флігель-ад'ютанта ў свіце расійскага імператара і чын капітана ІІ-га ранга. Брыгу "Меркурый" быў прыданы кармавы Андрэеўскі сцяг — вышэйшая ўзнагарода ў рускім флоце". А яшчэ наш зямляк атрымаў залатую шпагу.**

— На Чарнаморскім флоце Расіі сёння ёсць тральшчык "Казарскі" і судна "Памяць "Меркурыя". А крымскія беларусы па ўрачыстых днях збіраюцца каля помніка герою-суайчынніку. Святкавалі мы, дарэчы, і 65-годдзе вызвалення Беларусі. З гэтай нагоды зрабілі ў сябе памятную выставу, на якой былі прадстаўлены і севастопальскія, і мінскія выданні.

**P. S.** Калі тэкст быў напісаны, у архіве Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў нечакана знайшоў брашуру "А. І. Казарскі" (Севастопаль, 1997) з аўтографам аўтара, капітана І рангу ў адстаўцы М. Макарэева. Яна дазволіла ўдакладніць дату нараджэння суайчынніка: 16 чэрвеня. Гэта важна, таму што ў беларускіх крыніцах, нават энцыклапедычных, указваецца толькі год.

З гэтай рэдкай брашуры, выдадзенай Музеем Чырвонасцяжнага Чарнаморскага флоту на правах рукапісу, я даведаўся (у беларускіх крыніцах гэтых звестак няма), што будучага героя ў Дуброўне вучылі: пісьменнасці — праваслаўны святар, матэматыцы, лаціне і французскай мове — малады ксёндз. Рэдкі выпадак нават для шматканфесійнай і талерантнай Беларусі… Аказваецца таксама, што бацька Аляксандра, упраўляючага маёнткам князя, адстаўнога віцебскага губернскага сакратара, быў настолькі бедным, што развітваючыся з сынам перад яго ад'ездам у горад Нікалаеў, у Чарнаморскае штурманскае вучылішча, сказаў яму: "Чэснае імя, Саша, — гэта адзінае, што пакідаю табе ў спадчыну". Высвятляецца, што ў Дуброўне побач з першай дошкай патрэбна і другая: брат Аляксандра, капітан 2 рангу Мікалай Казарскі, камандаваў тым жа брыгам "Меркурый" у 1840–1848 гадах, "крэйсераваў каля абхазскіх берагоў".

У брашуры ёсць таксама сумныя дакументы аб тым, што стала прычынай заўчаснай смерці Аляксандра Казарскага: у 1833 годзе яго атруцілі ў Нікалаеве, таму што… раскрадальнікі царскай казны баяліся яго як звышпрынцыповага рэвізора.

Калі вандруеш па Шчучыншчыне, не можаш не праяўляць цікавасць да тапанімічнай біяграфіі гэтай старонкі. Вялікія і малыя паселішчы ўражваюць сваімі назвамі, у чарговы раз даводзячы: тапанімічны партрэт нашай Бацькаўшчыны шматабсяжны і шматзначны. І па характары, па прыродзе сваёй прыналежны ён розным гістарычным часінам, і нават розным народам і розным культурам. Услухайцеся: Замасцяны, Мікулішкі, Мінотавічы, Тур'я (яшчэ ж і рэчка Тур'я), Васілішкі, Еўлашы, Плябанаўцы, Астрына, Праважа, Дэмбрава, Галавічполе, Вялікае Мажэйкава, Малыя Пугачы, Вялікія Пугачы, Збражкі, Баяры Жалудоцкія, Савейкі, Рыманды, Разняты, Бершты, Арлова Гара…



Шчучын. Рыначная плошча. 1916 г.

# Знічкі Айчыны


Шчучын. Палац князёў Друцка-Любецкіх. 1930 г.



Шчучын. Царква. Пач. XX ст.



Шчучын. Касцёл. Пач. XX ст.

**Алесь Карлюкевіч**

Што за назвы! Дзе ж тут дасі рады спыніцца, аглядаючы і аглядваючыся, азіраючыся! Так і цягне за сотнямі паселішчаў шчучынскіх пераказаць яшчэ і мікратапонімы, вядомую з паверхні моўных сховаў іх частку, ды наталіць смагу да прыгожага, і яшчэ раз услухацца ў сімфонію народнага, сапраўднага, стагоддзямі адшліфаванага слова…

Уявіце ж і вы, у якой моўнай прасторы бегалі, гадаваліся, да асветы цягнуліся зоркі і зорачкі шчучынскія. У 1793 годзе ў Шчучыне нарадзіўся польскі паэт, архівіст Ануфрый Петрашкевіч — у сям'і небагатага шляхціца. Вучыўся ў Віленскім універсітэце на факультэце прыродазнаўчых і фізічных навук. Вучобу спалучаў з працай у "масе радзівілаўскай" — камісіі па ўпарадкаванні княжацкіх папер.

Там пазнаёміўся і пасябраваў з Янам Чачотам. У 1816 годзе атрымлівае ступень кандыдата філасофіі, у 1817-м Ануфрый Петрашкевіч разам з Адамам Міцкевічам, Янам Чачотам, Тамашам Занам становіцца адным з стваральнікаў тайнага таварыства філаматаў, прычым адной з самых дзейсных асоб у арганізацыі. У 1820 годзе менавіта ён распрацаваў структуру таварыства сяброў карыснай забавы ("прамяністых") — легальнай патрыятычнай арганізацыі студэнтаў Віленскага універсітэта. У 1823 годзе разам з Міхалам Рукевічам пачаў ствараць у Шчучыне мясцовую тайную арганізацыю. У чэрвені 1831 года Петрашкевіча арыштавалі. Пачынаюцца доўгія і пакутныя сібірскія гады жыцця нашага земляка. Толькі ў 1860 годзе Ануфрый вяртаецца на Радзіму. Ёсць у адным з вершаў паэта і такія радкі:

*Лёг пад мяжу ліхой навалы*
*Вялікі мужны род славянаў.*
*Ды хоць па краі заняпалым*
*У кожным сэрцы ные рана,*
*Не згасне вера: продкаў слава*
*Нашчадкам будзе ззяць яскрава.*
…………………..
*Ды толькі сэрцы немагчыма*
*Любові да цябе, Радзіма.*

(Пераклад з польскай мовы Кастуся Цвіркі.)

Шчучын — радзіма грамадскага і культурнага дзеяча, педагога, выдаўца Фелікса Стацкевіча (1879-1967). Менавіта ўраджэнец старажытнага гарадзенскага паселішча быў выдаўцом кнігі паэзіі Максіма Танка "Журавінавы цвет" (Вільня, 1937 год). У 1923 — 1929 гады Фелікс Стацкевіч — дырэктар Радашковіцкай беларускай гімназіі. У Шчучынскім раёне нарадзіліся, зрабілі першыя працоўныя крокі дызайнер Ірына Красоцкая (з 1987 года ўдзельнічае ў выстаўках), паэт і журналіст Уладзімір Васько (у 1981 годзе выдаў зборнік вершаў "Прасветленасць"), кандыдат культуралагічных навук Сяргей Данскіх (працуе ў Гродзенскім дзяржаўным універсітэце, актыўна займаецца краязнаўствам Шчучыншчыны), кандыдат філалагічных навук Анатоль Багдзевіч (сярод даследчыцкіх зацікаўленняў — праблемы беларускага словаўтварэння, тэрміналогіі).

Гісторыка-культурную біяграфію Шчучыншчыны нельга ўявіць без згадкі пра пісьменніцу, педагога, выдаўца, артыстку тэатра Цётку (Алаізу Пашкевіч), якая нарадзілася ў маёнтку Пясчына. Дзяцінства правяла ў маёнтку Тарэсін і вёсцы Стары Двор. Выдавала часопіс для дзяцей "Лучынка". Аўтар зборніка вершаў "Хрэст на свабоду", "Скрыпка беларуская". У Пецярбургу пабачыла свет яе "Першае чытанне для дзетак беларусаў". Здавалася б, пачатак дваццатага стагоддзя, даўно адышоўшая ў нябыт літаратурная гісторыя… Ды хвалюе, непакоіць вобраз Цёткі, цікавяць яе справы. Дысертацыю пра творчасць Алаізы Пашкевіч, а пасля і дакументальныя аповесці пра яе жыццё — "На струнах буры" і "Стану песняй" — напісала Лідзія Львоўна Арабей. А нядаўна я атрымаў ліст ад журналіста і пісьменніка Вітаўтаса Жэймантаса з Вільнюса. У канверце — выразка з яго артыкуламі пра "беларускія літаратурныя адрасы ў Літве". Займаецца Вітаўтас і пошукамі матэрыялаў пра віленскія сцежкі Цёткі.

Жалудок — адно з найцікавейшых мястэчак Гарадзеншчыны. Вядомасць мае з 2-й паловы XV ст. як вялікакняжацкае ўладанне, двор з волацсю. Адзін час мястэчка (ужо ў статусе гарадскога пасёлка) нават з'яўлялася цэнтрам Жалудоцкага раёна. Нарадзіўся ў Жалудку ў 1867 годзе яўрэйскі пісьменнік і выдавец Бен-Авігдор (сапраўдныя імя і прозвішча — Аўрахам Шалковіч). З 1891 года жыў у Варшаве, стварыў друкарскі дом "Ахіясаф", у якім выпусціў тры тамы штогодніка "Луах Ахіясаф". З 1891 года выпускаў дзіцячы тыднёвік "Алам катан". З'яўляўся адным з першых прапагандыстаў кнігі на сучасным іўрыце. Жалудок — радзіма народнай артысткі Беларусі Вольгі Галіны (1899-1980), якая амаль чатыры дзесяцігоддзі адпрацавала ў Купалаўскім тэатры. Выканаўца многіх прыкметных і запамінальных роляў — Марыя Тарасаўна ў "Платоне Крэчаце" А. Карнейчука, Прымаковіч у "Людзях і д'яблах", Ендрыхоўская ў "Партызанах" К. Крапівы, Аркадзіна ў "Чайцы" А.Чэхава, Карэніна ў "Жывым трупе" Л. Талстога…У Жалудку у 1952 годзе нарадзіўся мастак Уладзімір Нікольскі, які цяпер жыве і праце ў Лідзе. Вядомасць маюць многія графічныя работы майстра: серыя "Лекары", літаграфіі "Стары Мінск", "Сельскі матыў"…

Шукаючы шчучынскіх знакамітасцяў, можна і варта зазірнуць у Бершты, Васілішкі, Астрына, Клешнякі, Дуброву, Красляны… І надарыцца ў вас такая магчымасць, не абмініце таксама Вялікае Мажэйкава і Андрушоўцы, Гурнофель і Ішчаліна, Рyткевічы і Касцянёва, дзе, несумненна, з вялікай асалодай адкрыецца для сябе яшчэ і старадаўнія сядзібы.

© В поисках утраченного. Паштоўкі з калекцыі Уладзіміра Ліхадзедава

# Пяшчота бронзавых прыгажунь

## Сонечнасцю і цеплынёй напоўнены скульптуры і графічныя лісты Андрэя Асташова

**Юлія Логвінава**

Такое ўражанне ад наведвання мінскай галерэі Андрэя Асташова, быццам я патрапіла ў містычны свет казак. Ён поўніцца бронзавымі фігуркамі троляў, эльфаў, феяў, самураяў, міфічных істот. Яны ўсе як жывыя. І ўсе скульптуры — дзеці. Скульптар Андрэй Асташоў падглядзеў іх у самы звычайны, і тым не менш патаемны момант жыцця: падчас гульні. А якая тонкая праекцыя на дарослае жыццё! Тут я сустрэла, напрыклад, ляльку, што кіруе карэтай, а замест коней у яе маленькія брацік з сястрычкай. Здзіўляе і радуе дзяўчынка, якая выпадкова трапіла пад “Мядзведзікавы дождж”. Мяне ўскалыхнула прага адкрыццяў разам з героямі “Казкі падарожжаў”. І трошкі тужліва было побач з імянінніцай “Свята Дня нараджэння” ці нявестай “Лялечнага вяселля”: дзяцінства ж не вернеш…

Андрэю Асташову цікавы псіхалагічны і эмацыйны бок жыцця, ён нібыта гаворыць: “Не бойцеся заставацца дзецьмі і радавацца жыццю!” Усе творы Андрэя праменяць любоўю да персанажа, напоўнены пяшчотай. На мове пачуццяў, мусіць, яны і размаўляюць з тымі, хто цікавіцца гэтымі рэчамі.

Гэтым і заварожвае Асташоў. Скульптуры яго, між іншым, жывуць і далёка ад Беларусі. І Нацыянальны мастацкі музей набыў яго працы, а ў парках і на плошчах гарадоў таксама можна сустрэць скульптуры майстра.

У 39-гадовага ўраджэнца Ліды за плячыма больш за 60 выстаў, ёсць персанальны сайт www.ostashov.com. Бронзавыя дзяўчынкі радавалі гледачоў у Мінску, Кіеве, Кракаве, Парыжы, Маскве... Некаторыя з гэтых прыгажунь пасяліліся ў прыватных калекцыях Вялікабрытаніі, Германіі, Галандыі, Іспаніі, Польшчы, ЗША. “Тонкім інтэлектуальным відовішчам” называюць мастацтвазнаўцы яго творы, скульптар знайшоў сваю выразную мову. Ён гаворыць пра тое, што ўсе мы — дзеці. Зрэшты, як і ён сам.

...А калі вам захочацца вярнуцца ў свае лепшыя гады — завітайце ў мінскую галерэю “Бамонд”, што ў Траецкім прадмесці, і зазірніце ў вочы бронзавых дзяўчынак.



Скульптар Андрэй Асташоў на адкрыцці персанальная галерэі



У халоднай бронзе скульптур А. Асташова шмат пачуццяў і гульні

# У госці – з усіх кантынентаў

**Кацярына Сідзелава**

**Упершыню ўдзельнікам тэатральнага фестывалю “Панарама” ў Мінску стане калектыў з Венесуэлы**

Фестываль у чацвёрты раз пройдзе ў кастрычніку і збярэ больш за дваццаць тэатральных калектыў з Беларусі, Расіі, Латвіі, Літвы, Польшчы, Эстоніі, Швейцарыі і Венесуэлы. У праграме “Панарамы” запланаваны майстар-класы ад вядомых віртуозаў сцэны, праект “Тэатр – online” і Дні культуры Санкт-Пецярбурга.

Беларусь на фестывалі прадставяць 9 мінскіх тэатраў: Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы, Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Максіма Горкага, Беларускі рэспубліканскі тэатр юнага гледача, Беларускі дзяржаўны тэатр лялек, Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі, Тэатр-студыя імя Яўгена Міровіча, Новы драматычны тэатр г.Мінска, Тэатральны праект Каці Агароднікавай, Тэатр “ІнЖэст”.

“Замежнае аддзяленне” фестывалю адкрыецца выступленнем тэатра “Вершалін” з Польшчы на сцэне Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, дзе ў далейшым будуць іграць і іншыя ўдзельнікі фестывалю. Спектаклі будуць праходзіць на нацыянальных мовах з паралельным перакладам.

# Усім ягадам ягада

## Дзень буякоў прайшоў у Цэнтральным батанічным садзе Нацыянальнай акадэміі навук

**Вольга Бяляўская**



БЕЛТА

На ягадным кірмашы

На выставе-кірмашы былі прадстаўлены як традыцыйныя, так і новыя для Беларусі гатункі буякоў (у рускіх ягада мае назву галубіка). Ягады і саджанцы ў Мінск прывезлі фермеры з усіх рэгіёнаў краіны. Вельмі шырока прадставілі сваю прадукцыю гаспадаркі паўднёвых раёнаў Брэстчыны – Пінскага і Ганцавіцкага. Наведвальнікі выставы змаглі не толькі пазнаёміцца з дасягненнямі раслінаводаў, але і набыць саджанцы і ягады буякоў. З найбольш цікаўнымі пакупнікамі фермеры ахвотна дзяліліся сакрэтамі вырошчвання і атрымання багатага ураджаю ягад.

Дзень буякоў праводзіцца ў Цэнтральным батанічным садзе штогод. Цікавасць да яго ўзрастае, як і колькасць яго ўдзельнікаў. І гэта не выпадкова, адзначаюць навукоўцы. Буякі – адна з самых карысных ягад. Яна ўтрымлівае антыаксідантны комплекс, які ачышчае і амалоджвае арганізм чалавека. Да таго ж буякі выводзяць з арганізма радыенукліды. Ягаду паважаюць і за высокае ўтрыманне вітамінаў і фоліевай кіслаты.

Цэнтральны батанічны сад НАН Беларусі – захавальнік генафонду раслін і вядучы навуковы цэнтр краіны ў галіне інтрадукцыі і акліматызацыі раслін, ахова навакольнага асяроддзя, фізіялогіі і біяхіміі раслін. Гэта адзін з найбуйных батанічных садоў Еўропы: калекцыі, экспазіцыі і ўчасткі рэпрадукцыі адкрытага грунту налічваюць каля 10 тысяч гатункаў раслін розных кліматычных зонаў свету. ЦБС абменьваецца насенным матэрыялам з 240 батанічнымі садамі замежжа, найболей інтэнсіўна – з Расіяй, Украінай, Францыяй, Італіяй і Германіяй.

# Прамавугольная манета

## Рэпінская калекцыя Віцебскага абласнога краязнаўчага музея папоўнілася каштоўным экспанатам

**Дзіяна Курыла**

Для віцебскіх музейшчыкаў гэта ўдвая каштоўнае набыццё. Манета “І.Рэпін” прысвечана мастаку, творчасць якога звязана ў тым ліку і з Віцебшчынай, да таго ж на манеце выяўлена сядзіба Ільі Рэпіна ў Здраўнёве, якая цяпер з'яўляецца філіялам абласнога краязнаўчага музея. “Не кожны музей мае гонар быць выяўленым на дзяржаўнай манеце”, — падкрэсліў намеснік дырэктара музея Валерый Шышанаў.

Сярэбраная памятная манета “І.Рэпін” выпушчана Нацыянальным банкам у рамках міжнароднай праграмы “Мастакі свету”. Яе намінал складае 20 беларускіх рублёў. Як і ўсе манеты гэтай серыі, яна мае прамавугольную форму. На ёй размешчаны фрагмент карціны Ільі Рэпіна “Восеньскі букет”, ёсць і рэльефная выява Дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь. На рэверсе — рэльефная выява аўтапартрэта мастака, а таксама музея-сядзібы Ільі Рэпіна ў Здраўнёве (Беларусь, Віцебская вобласць), ніжэй — выява палітры і пэндзляў. Між іншым, карціна “Восеньскі букет”, адчаканеная на аверсе, выбрана не выпадкова; яна напісана ў Здраўнёве.



БЕЛТА

Валерый Шышанаў дэманструе манету “І.Рэпін”

У гонар 165-годдзя з дня нараджэння Ільі Рэпіна, якое адзначалася 5 жніўня, у мастацкім музеі — філіяле краязнаўчага — была адкрыта выстава яго прац: акварэляў і графікі з фондаў музея. Памятныя манеты таксама выстаўлены тут для агляду.

Дарэчы, у рамках міжнароднай праграмы “Мастакі свету” памятныя сярэбраныя манеты выпусцілі Арменія, Андора, Польшча і нават такія экзатычныя дзяржавы, як Ніуэ і Астравы Кука. Больш за ўсіх манет гэтай серыі — пяць, прычым не толькі ў серабры, але і ў золаце — выпусціла Францыя. Яна прысвяціла іх Эдгару Дэга, Эдуарду Манэ і Клоду Манэ. А ў поўнай калекцыі нумізматаў яшчэ Іван Айвазоўскі, Вінсэнт Ван Гог, Анры дэ Тулуз-Латрэк, Леанарда да Вінчы, П'ер Агюст Рэнуар, Аляксандр Герымскі, Леон Вычулкоўскі, Ян Вермеер.

**Заснавальнік:** Рэдакцыя газеты «СБ»
**Рэдактар** Віктар Харкоў
**Адрас:** пр. Незалежнасці, 44, Мінск, 220005
**Рэгістрацыйнае пасведчанне № 61**
**Тэлефон рэдакцыі:** +375 17 288—12—80; факс: +375 17 288—12—80
**Бюро па рэкламе:** Тэл. +375 17 290—60—11
**E—mail:** golas_radzimy@tut.by
Газета надрукавана ў Рэспубліканскім унітарным прадпрыемстве «Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
**Аб'ём выдання:** 1 друк. арк.
**Тыраж:** 2000
**Заказ:** 920